# ПАХОДНЯ

№ 1 (12 )
**студзень**
2000 г.

Бялыніцкі культурна - асветніцкі, інфармацыйна -аналітычны бюлетэнь


*Інтэрв"ю на вуліцы*

## Дапамогай сыты не будзеш

**Яшчэ класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля некалі заўважыў, што ў кожнага чалавека свая мерка шчасця. Аднаму, каб адчуць сябе задаволеным, хапае і лыжкі заціркі. Другому, вядома, і вагона золата - мала. Але мы не будзем кідацца ў крайнасці, адшукваючы і першых, і другіх. А проста выйдзем на вуліцу нашага мястэчка і пагутарым з першым прахожым, якога спаткаем...**

**Алена Каралёнак некуды спяшалася. Ды жанчыну, відаць, зацікавіла пытанне.**

- Жыву,- крыху падумаўшы сказала Алена Паўлаўна,- як і выключная большасць:перабіваюся з капейкі на капейку. Працую на мясцовым хлебазаводзе, а заробкі там не сказаць, каб былі вялікімі. На самае неабходнае толькі і хапае. Дачку, во, замуж аддала - патрацілася. Згуляць вяселле цяпер - вялікая праблема.

- А прадпрыемства, на якім працуеце, не дапамагло?

- Аказала матэрыяльную дапамогу - як адчэпнага. Ажно мільён рублёў выдзеліла.

- Усяго толькі мільён?

- Я не жартую. Мільён. Толькі што атрымала яго.А заяву ў прафкам аб аказанні матэрыяльнай дапамогі напісала яшчэ ў лістападзе 2 месяцы вырашалі. Ведаеце, я і сама , атрымаўшы гэты «лімон» падумала : якая ж гэта дапамога? І што за яе можна купіць?

- А ці даўно вы працуеце на хлебазаводзе?

- Пяты год. А ў райспажыўтаварыстве - чатырнаццаць. Мы - адна арганізацыя. І за ўвесь гэты час вось цяпер толькі адзін раз і звярнулася па матэрыяльную дапамогу ў прафкам.

- А ці далі вам колькі дзён адгулаў, каб вы змаглі падрыхтавацца да вяселля?

- І з гэтым таксама атрымалася абы - што. Хоць паводле калектыўнай дамовы, тэрмін дзеяння якой завершыцца яшчэ толькі ў сакавіку, на такія ўрачыстасці прадугледжаны два дні адпачынку з захаваннем сярэдняга заробку. Два дні мне прадставілі, ды толькі без аплаты. У бухгалтэрыі сказалі, нібыта цяпер анікому іх не аплачваюць. А як жа наша дамоўленасць? Гэта ж дакумент, прыняты на агульным сходзе! Ён рэгламентуе адносіны паміж адміністрацыяй і работнікамі.А вось бачаце,- парушаецца.

- Вы будзеце дамагацца справядлівасці?

-Паспрабую.

-Ну то поспеху вам і ўдачы.

- Дзякуй і вам на добрым слове!

## *Хроніка бягучых падзей*

■ **Як сцвярджаюць дасведчаныя людзі раніцай 26 студзеня ў некаторых населеных пунктах раёна мароз даходзіў ажно да 35 градусаў.У гэтую ноч у сваім агародзе замерзла і 87 - гадовая адзінокая бялынічанка Алена Ягораўна П. Жанчына выйшла на вуліцу па нейкіх сваіх справах, дзе і памерла ад перахалоджвання.**

■ Установамі банкаў за мінулы год ва ўклады прыцягнута грашовых сродкаў насельніцтва на 17,8 мільярда рублёў (без уліку дэнамінацыі ). Астатак укладаў па стану на 1 студзеня б.г. склаў 42,8 млрд.руб.

■ **Афіцыйна ўлічанымі прадпрыемствамі гандлю раёна летась было рэалізавана насельніцтву алкагольных напіткаў і гарэлкі на 295,7 мільярда рублёў,што ў агульным тавараабароце прадпрыемстваў райспажыўтаварыства склала 19,4 працэнта.Іншымі словамі, летась кожны бялынічанін,улічваючы і немаўлятак, на спіртное патраціў больш за 11 мільёнаў рублёў. А на якую суму набыта самагонкі ў гэтак званых «начных кропках» ?**

■ Снежаньская бура прынесла сельскім гаспадаркам раёна матэрыяльных страт на 310307 мільёнаў рублёў.

## хто грошы мае - той і пан

*Дастатак чалавека, узровень яго жыцця вымяраецца грашыма. Ад гэтага, вядома нікуды не ўцячэш.Як кажуць, хто грошы мае -- той і пан.*

*Канешне, лічыць грошы ў чужой кішэні,- справа тая , вядома ж , не вельмі прыемная. Хоць і не такая ўжо і сумная. Па крайняй меры , можаш параўнаць.А калі ёсць ахвота, то і пазайздросціць.*

*Статыстыка ведае практычна ўсё.*

*Па звестках гэтай кампетэнтнай* службы сярэднямесячная заработная плата разам з матэрыяльнай *дапамогай і сацыяльна - працоўнымі льготамі за студзень - лістапад мінулага года ў працаўнікоў нашага раёна склала толькі 11699,7 тысячы рублёў. У тым ліку за лістапад - 17664,1 тысячы рублёў.*

*Найбольш высокааплатнай была , як , здаецца, і застаецца дагэтуль* служба банкаўскіх работнікаў. Яны летась у акрэслены перыяд штомесячна *атрымлівалі ў сярэднім па 46812,2 тыс. руб. А скардзіцца на мізэрныя заробкі маюць падставы працаўнікі сферы бытавога абслугоўвання , якія зараблялі ў сярэднім штомесяц толькі па 8146,1 тыс.* руб. Па заробку ад іх адарваліся нават работнікі сельскай гаспадаркі, зарплата якіх склала ў сярэднім 11816,6 тыс. руб. за *месяц.*

*А ў цэлым сярэднямесячная зарплата па раёну была ніжэй спажывецкага бюджэта на 30,6 %.* **А. СУМНЫ.**

# Аб чым шуміць кавыль-- трава на полі нашай памяці?

«... Палітрук турмы г. Ашмяны Кліменка і пам. упаўнаважанага Аўдзееў у момант бамбардзіроўкі г. Ашмяны самавольна вывелі з камер 30 чалавек паняволеных, якія абвінавачваліся ў злачынствах контррэвалюцыйнага характару, і ў падвале турмы расстралялі, пакінуўшы трупы непрыбранымі. Астатніх арыштаваных пакінулі ў корпусах і зніклі з турмы ўсім асабовым складам.

На другі дзень мясцовыя жыхары г. Ашмяны, даведаўшыся аб расстрэле паняволеных, пайшлі ў турму і, разбіраючы трупы,адшукалі сваіх ( пабітых,- М.К. ) сваякоў.»

*Дакладная запіска « Аб эвакуацыі турмаў НКУС БССР», складзеная 3 верасня 1941 года намеснікам начальніка турэмнага упраўлення НКУС БССР лейтэнантам дзяржбяспекі Опалевым*.

Бяспамяцтва,як ні круці, як ні шукай апраўданняў яму, ёсць, было і будзе, бадай, самай небяспечнай сацыяльнай хваробай, страшэннай карай, найбольшым злом у жыцці нацыі. Забыўлівасць, памножаная на страх, няўхільна ператварае індывідуума ў жывёліну. У жывёліну са знешнімі прыкметамі чалавека, якая пачынае жыць і дзейнічаць выключна паводле пячорных інстынктаў, становіцца цалкам залежнай ад іх. Гэтая хвароба ў дадатак да ўсяго непрыемнага, што яна нясе з сабой, яшчэ вельмі цяжка паддаецца і лячэнню, адзіным надзейным сродкам якога застаецца галоснасць і праўда.

Ці многія з нас, сённяшніх, задумваліся над тым, чаму беларускі народ цягам некалькіх стагоддзяў цярпеў здзек над сваёй годнасцю,пакутваў ад прыніжэнняў і – пакорліва, са згодніцкай мінай на твары маўчаў?

Можна па- рознаму адказваць на гэта пытанне... Але так ці інакш дамінантнай пазіцыяй тут выступае поруч з легендарнай рахманасцю ды цярпімасцю і наша забыўлівасць, якая, мажліва, і стала архетыпнай рысай ментальнасці беларусаў. Хоць,як мне здаецца, і прышчэпленай, выпрацаванай у набыты рэфлекс. А гэта самая акалічнасць і пакідае, хай сабе і кволы, але рэальны спадзеў на адтаржэнне шкоднага вірусу. Праўда, дзеля гэтага патрэбна мець, як мінімум, здаровы арганізм. Зараз імунная сістэма нацыі моцна аслаблена, яна яшчэ не акрэпла ад папярэдніх магутных удараў, досыць слабая, каб перамагчы небяспечную інфекцыю. Наша ахоўная сістэма толькі пачынае аднаўляцца, супраціўляецца напорыста – магутнай сіле ўсюдыіснай і стойкай бацыле бяспамяцтва.

Наперадзе ў нас доўгая дарога вяртання да сваіх вытокаў, да нацыянальных каранёў – вяртання да саміх сябе. І на гэтым коўзкім, пакручастым шляху на кожным кроку нас падпільноўвае безліч перашкод. Аднак, самая галоўная, самая важная з іх, як ні дзіўна, тоіцца ў нас жа саміх. Мы кідаем яе наперад сябе, спатыкаемся аб яе і скочваемся, распластаўшыся, на свой адвечны зыходны рубеж. Яна, бяда – перашкода гэта,- наша нежаданне папаўняць уласную памяць багажом ведаў, абуджаць яе, абвастраць гістарычнай, нацыянальнай, моўнай свядомасцю; наша абсалютная абыякавасць. Жывем толькі адным, сённяшнім, днём, зусім нядбаючы пра долю сваіх нашчадкаў, якія таксама неўзабаве вымушаны будуць ступіць на гэту, непратораную намі, бацькамі іх ,дарогу.

Не так даўно на залітай сонцам цэнтральнай плошчы Бялынічаў з абавязковым пасяродку яе помнікам прадказальніку пабудовы зямнога раю, правёў саматужнае сацыялагічнае апытанне : у дваццацідвух чалавекаў, што праходзілі міма, паспрабаваў высветліць – хто такі Усяслаў Чарадзей і за што яго абавязаны шанаваць беларусы?

Адказы давялося пачуць самыя розныя і, дарэчы, аніводнага правільнага. Хоць многія з маіх выпадковых рэспандэнтаў былі, так бы мовіць, інтэлігентнымі на выгляд людзьмі. Здзівіла таксама і перакананасць, бадай, кожнага з іх у правільнасці выказанай толькі імі думкі – аж да непрыняцця, імпульсіўнага абурэння на заўвагу апанента. Вось жменька характэрных адказаў.

- Гарэлка такая ёсць,- упэўнена прамовіў мужчына.- Мінская. Праславілася на ўвесь свет! Некалькі медалёў на выставах атрымала. Але самому пакаштаваць яе не давялося... Пакуль што. Казалі людзі – вельмі смачная і галава раніцой не баліць.

- Чарадзей? Усяслаў?—Перапыталася жанчына, знешне падобная на вясковую настаўніцу.—Чула пра яго. Аняго ж ! Людзей лечыць, Чарадзей той. Як наша Хадора. Але ў яго біяполе мацнейшае. Толькі не беларус ён, як вы кажаце, а – паляк, здаецца. Ці то літовец.

- Усяслаў, кажаш?— Задумаўся мой аднагодак.—Не ведаю такога. Майго Чарадзея Сашкам завуць...

Якія могуць быць каментарыі? Вось і ўся абазнанасць у нацыянальнай гісторыі. Уся памяць...

Затое, да слова ўжо сказаць, аб інтымных адносінах Монікі і Біла мае землякі ведаюць, здаецца, усё і нават больш за саміх герояў той сумнавядомай гісторыі.Падаграваe апетыт пазнання такога кшталту і тэлебачанне. Толькі на перадвелікодны тыдзень 1999 года па каталіцкаму календары блакітны экран прапанаваў дзве перадачы на тэму сексуальных адносін прэзідэнта краіны і шараговай грамадзянкі.Аксана Пушкіна “дапытвала” Моніку ў “ Жаночых гісторыях” па РТР, а пазычанае на 6 канале ток – шоу з Монікай “пракруціла” у сваёй праграме і магілёўскае рэгіянальнае тэлебачанне. Дзяржаўнае тэлебачанне!

Народ, прыпаўшы да блакітных экранаў, замёр, затаіў дыханне, баючыся прапусціць нейкі эпізод, празяваць падрабязнасці. Тут ён прагне ўведаць усё, каб заўтра праявіць сваю дасведчаннасць, пераказваць, каменціраваць, захапляцца ці абурацца... А тэлебачанне, газеты падкідваюць абываталю новыя сюжэты, новыя факты. Не паспелі, як след разабрацца з Монікай – “засвяціўся” ў ложку з прастытуткамі пан Скуратаў. Праўда, тыя пікантныя кадры, зробленыя скрытай камерай, многія праміргалі, бо паказвалі іх у апошнім выпуску навін. Паўтору, вядома, не было. І заварушыўся люд, перапытваючы адзін аднаго, шукаючы тых, каму ўдалося – такі паглядзець ганебныя для генпракурора Расіі кадры,— каб у падрабязнейшых дэталях даведацца, як пазабаўляўся з прафесійнымі путанамі галоўны захавальнік маральнай чысціні ды законнасці краіны “ старэйшага брата”.

Нібыта галечы няма, адсутнічае беспрацоуе, дзеці сытыя ды апранутыя... Быццам і мова родная не задыхаецца ў абдымках трасянкі, і нацыя не вымірае, упэўнена скочваючыся па лёдавай дарозе цынізму ў прорву бездухоўнасці і абсалютнай абыякавасці. Галоўнае —-находзіцца ,як кажуць, у курсе вось гэтых пікантных навінаў ды сюжэтаў, а на ўсё астатняе з алімпійскім спакоем махнулі рукой. У тым ліку і на адказнасць за свае ўчынкі. **( Працяг будзе )**

(былічка)

## хвастаты хлопчык

Іван Брэндзікаў

Хачу распавесці вам адну цікавую гісторыю, якую расказаў мне адзін стары і дужа дасціпны дзед. Ён сцвярджае і бажыцца, што менавіта так усё было на самой справе. Сам я, праўда, сумняваюся, але свет, як вядома, вялікі і чаго толькі не здараецца.

Дык вось. Калісці ў нашай вёсцы нарадзіўся хлопчык… з хвастом. Маленькім такім, самым звычайным хвосцікам. Нічога дзіўнага тут, безумоўна,няма. У прыродзе і не такое здараецца. Зрэшты, чаму амаль уся жывёла мае хвасты, а чалавек не павінен яго мець?

Ну, нарадзіўся,дык нарадзіўся. Няхай жыве сабе на здароў'е і на радасць бацькам. І жыў, і рос,івырас. Ды такі прыгожы, разумны,што бацькі не маглі ім нацешыцца. Нарэшце надышоў той час, калі хлопцу захацелася ажаніцца. Прыгледзеў сабе вясковую прыгажуню ды сватоў паслаў. А дзяўчына голасам плача:

- Не пайду! За хвастатага!
- І не пайшла.

Пабедаваў хлопец ды пайшоў шукаць сабе нявесту ў іншых вёсках. І знайшоў. Вёрстаў за дваццаць ад дому. Пасватаў і нават вяселле прызначылі. Але праз некалькі дзён тая раптам прысылае ганцоў, якія паведамілі :

- За хвастатага сказала, – не пойдзе.

Хлопцу нічога іншага не заставалася,як звярнуцца да доктара. У бальніцы гэту праблему рашылі вельмі хутка і проста. Праз некалькі дзён дзяцюк быў такі, як і ўсе нармальныя людзі.

Але гэта не прынесла яму збаўлення.

Прыйшоў ен да хаты ды горка заплакаў. Так, што слёзы бобам пасыпаліся.

- Што ж,- кажа,- я нарабіў? Усё чалавецтва апаганіў. На корані загубіў яго надзею.
- І сапраўды, калі добра разабрацца, было ад чаго выць. Паразважайце самі: быў бы ён з хвастом – дзеці яго таксама былі б хвастатымі . І ўнукі, і праўнукі, і прапраўнукі… І ўсе – хвастатыя. Цэлае племя хвастатых людзей!

А якая карысць ад гэтага, выгода якая? Ды самая простая. Заходзіце, напрыклад, да начальніка…хвастатага. Бачаце: хвост яго задраны ўверх. Не сумуйце – усе вашыя просьбы будуць задаволены.

А калі, крый Божа, хвост у яго падціснуты – хутчэй зачыняйце дзверы ды ногі бярыце ў рукі! Навошта дарэмна траціць свой час, бо ўсё роўна з вашае просьбы анічога не выгарыць.

Памыліўся першы хвастаты чалавек. Не падумаў, як след. Ці, мо, няпраўду кажу?

*В. Глыбокі Брод.*

* *Кнігарня*

## « Поўдзень нацыі»

Напрыканцы мінулага года ў Віленскім выдавецтве "Наша будучыня " пабачыла свет кніга вядомага пісьменніка Уладзіміра Арлова і не менш знанага гісторыка Генадзя Сагановіча « Дзесяць вякоў беларускай гісторыі». Выданне ахоплівае час з 862 па 1918 гады. Яна мае невялікі раздзел « Беларусь дагістарычная». Увогуле аповяд пачынаецца з першых летапісных звестак пра Полацак і завяршаецца абвяшчэннем незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У кнізе чатыры вялікія раздзелы : « Старажытныя беларускія княствы» , "Вялікае княства Літоўскае " , « Беларусь у Рэчы Паспалітай» , "Беларусь у Расейскай імперыі ". Кожны гэткі раздзел адкрываецца паралельнай храналогіяй: асноўныя даты беларускай гісторыі - асноўныя даты гісторыі сусветнай.

Выданне пабачыла свет дзякуючы галоўнаму фундатару - Беларускаму дабрачыннаму фонду Вялікабрытаніі. Выхаду кнігі таксама садзейнічалі Раіса Жук - Грышкевіч, Івонка Сурвіла, Паўла Урбан,Кацярына і Люся Вініцкія, Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Юхнавец, Міхась Навумовіч, Аляксандр Надсан, Кастусь Акула і многія іншыя.

Дзесяць вякоў - поўдзень нацыі. Мы на сярэдзіне шляху, хоць нам, як ніводнаму народу, столькі разоў даводзілася пачынаць амаль з нічога, столькі разоў адбудоўвацца пасля пажараў.

## Наш календар

*Святочная культура беларусаў захавала старажытнейшую прымеркаванасць галоўных свят і абрадаў да сонечнага календара.Вялікдзень, Купалле, Дзяды і Каляды сімвалізуюць вясенне - восеньскія раўнадзенствы і летне - зімовыя сонцавароты. Дэмакратызм праваслаўнай канфесіі ў адносінах да дахрысціянскіх прыродна - натуральных язычніцкіх свят і абрадаў беларусаў тлумачыць тое, што ў народнай падсвядомасці яны захаваліся па юліянскаму (старому) календару ( ён адстае ад новага, грыгарыянскага, на 13 дзён ). Пераcоўныя святы адлічваюцца ад Вялікадня : на восьмым тыдні перад ім Масленка і затым - Вялікі пост, а на сёмым пасля -- Сёмуха, Тройца, за якімі ідзе Русальны тыдзень. Дзяды святкуюцца ў суботу перад 8 лістапада.*

*Серада , 2 лютага – Яўхім*

*Нядзеля , 6 - Аксіння – Паўзіміца*

*Серада , 9 - Залатавус*

*Субота , 12 - Стрэчаньскія Дзяды, Тры Свяціцелі*

*Панядзелак, 14 - Грамнічны Бацька*

*Аўторак ,15 - Стрэчаньне -- Грамніцы*

*Пятніца , 18 - Агата*

*Субота , 19 - Ваўкалакі*

*Чацвер ,24 - Улассе*

*Панядзелак , 29 - Касьян.*

*Панядзелак , 21 -- нядзеля , 27 –Дзедаў тыдзень.*

*Люты -- Мясаед - вясельніца.*

**Паходня**

*Культурна - асветніцкі, інфармацыйна - аналітычны бюлетэнь*

Рэдактар **_Генадзь Лапо_**

выдаецца выключна на беларускай мове

■ Т. 22-431 ■ Распаўсюджваецца бясплатна **Наклад 125 асобнікаў**